Давайце абмяркуем

# Узаемаразуменне, узаемадзеянне, узаемапавага

***Аснова выхавання дзяцей - сям'я. Так было раней, так павінна быць і цяпер. У залежнасці ад сям'і і ўзроўню выхавання ў ёй вырастаюць розныя людзі: вынослівыя і працавітыя, лёгкаранімыя і абыякавыя, безадказныя і старанныя.***

Вопыт работы педагогаў школ і пазашкольных устаноў з бацькамі дазволіў выявіць наступныя праблемы сямейнага выхавання:

- складанасці ў фарміраванні здаровага ладу жыцця;
- нізкі ўзровень псіхолага-педагагічных ведаў бацькоў;
- нязначны ўдзел бацькоў у выхаванні сваіх дзяцей;
- дэгуманізацыя стасункаў у сям'і (праблема насілля над дзецьмі, дамінаванне аўтарытарнага стылю ў выхаванні).

Роля педагогаў заключаецца ў тым, каб дапамагчы сям'і вырашыць гэтыя праблемы, паказаць негатыўныя наступствы непаразумення паміж дзецьмі і бацькамі, навучыць іх навыкам узаемін, пераканаць, што любыя выхаваўчыя дзеянні асуджаны на няўдачу, калі бацькоў і дзяцей не звязвае ўзаемны клопат, павага, любоў, магчымасць быць пачутым і зразумелым.

Узнікае пытанне аб педагагічнай адукацыі бацькоў, якая павінна дапамагчы ім у выкананні функцый выхавання і сацыялізацыі дзяцей. Але сёння актуальна праблема занятасці бацькоў. Часам ім няма калі нават зайсці ў школу пацікавіцца поспехамі сваіх дзяцей, не кажучы ўжо пра наведванне бацькоўскага ўсенавуча.

Гэтую праблему мы вырашаем наступным чынам:

- праводзім бацькоўскія сходы на прадпрыемствах, дзе працуюць бацькі вучняў;
- устанаўліваем стэнды "Весткі са школы", на якіх размяшчаем інфармацыю пра поспехі школьнікаў у вучобе і грамадскім жыцці, пра мерапрыемствы, што праводзяцца ў школе, закранаем пытанні выхавання дзяцей;
- выходзім на прадпрыемствы, арганізацыі з просьбай уключыць у калектыўныя дагаворы пункт аб заахвочванні бацькоў за добрасумленнае выхаванне сваіх дзяцей.

І першыя крокі ў гэтым напрамку ўжо зроблены. Многія калгасы, саўгасы, прадпрыемствы выплачваюць стыпендыі вучням-выдатнікам, бацькі якіх працуюць на даным прадпрыемстве.

У мэтах заахвочвання вучняў, якія дасягнулі высокіх вынікаў, і далейшага стымулявання рашэннем райвыканкама зацверджаны пяць прэмій імя Героя Савецкага Саюза Мікалая Трафімавіча Кітаева. З кастрычніка 2001 года пяць школьнікаў штомесячна атрымліваюць гэтую прэмію ў памеры дзвюх мінімальных зарплат на працягу вучэбнага года.

Вострая грамадская праблема нашага часу – сацыяльнае сіроцтва дзяцей пры жывых бацьках. Сям'я паступова перастае займацца выхаваннем, шукае іншых "адказных" і "вінаватых".

Дзіцячыя дамы, школы-інтэрнаты ўтрымліваюцца за кошт бюджэтных сродкаў, гэта значыць, на сродкі падаткаплацельшчыкаў, а бацькі, пазбаўленыя бацькоўскіх правоў, не нясуць нават матэрыяльнай адказнасці, бо з бацькоў-алкаголікаў немагчыма спагнаць грошы за дзяржаўную апеку над кінутымі дзецьмі.

У сувязі з гэтым неабходна ўнесці змены ў заканадаўства краіны і прадугледзець абавязковае адлічэнне пэўнай сумы грошай з заработнай платы асоб, пазбаўленых бацькоўскіх правоў, на карысць інтэрнацкіх устаноў, дзе выхоўваюцца іх дзеці, аж да прымусовых работ для гэтай катэгорыі людзей.

Большасць цяжкіх дзяцей і падлеткаў жыве ў праблемных сем'ях. У некага бацькі п'юць, у кагосьці разведзены, але працягваюць жыць у адной кватэры, з-за чаго ўзнікаюць частыя сямейныя скандалы, нехта не наладзіць стасункі з айчымам. Сярод цяжкіх дзяцей не столькі парушальнікаў, колькі ахвяр сацыяльнага асяроддзя.

Каб неяк вырашыць праблему, у раёне дзейнічаюць дзіцячы сацыяльны прытулак на 35 месцаў і пакой сутачнай рэабілітацыі для дзяцей, якія апынуліся ў экстрэмальнай сітуацыі; працуе "тэлефон даверу". На працягу чатырох гадоў пры раённым цэнтры творчасці і вольнага часу вучняў існуе дзіцяча-юнацкае аб'яднанне "ДОМ" (доверие, общение, милосердие) для дзяцей з неспрыяльнымі ўмовамі сацыялізацыі. Улетку на базе цэнтра працуе аздараўленчы летнік "Наш дом" для дзяцей "групы рызыкі".

Але і тут у арганізацыі такіх летнікаў і часовых прытулкаў ёсць свае праблемы. Лічу, што неабходна на рэспубліканскім узроўні распрацаваць палажэнне аб пакоі сутачнай рэабілітацыі, дзе ўказаць крыніцы яго фінансавання. Адначасова з паступленнем дзяцей у сацыяльны прытулак, бацькоў, якія злоўжываюць спіртнымі напоямі, неабходна накіроўваць у спецыяльныя медыцынскія ўстановы для праходжання адпаведнага лячэння, каб дзеці пасля знаходжання ў прытулку вярталіся ў сям'ю, якая аздаравілася як у фізічных, так і ў псіхалагічных адносінах.

Трэба таксама ўнесці змяненне ў палажэнне аб дзіцячым сацыяльным прытулку. Не варта абмяжоўваць знаходжанне дзяцей там шасцю месяцамі, бо ў многіх выпадках пасля заканчэння гэтага тэрміну малому проста няма куды падзецца.

Узнікаюць праблемы ў рабоце з бацькамі і ў школах, размешчаных на забруджанай тэрыторыі, у якіх вучацца дзеці як з чыстай, так і з забруджанай зон. Вучні, якія пражываюць на чыстай тэрыторыі, не могуць выязджаць на аздараўленне разам з усімі дзецьмі. У выніку два-тры школьнікі не вучацца ў перыяд выезду.

Сёння ў нашай краіне створаны ўмовы для навучання ўсіх дзяцей. Але бацькі звычайных дзяцей і многія педагогі не гатовы да такіх змен, таму сям'я, у якой выхоўваецца дзіця з асаблівымі адукацыйнымі патрэбамі, часта адчувае актыўнае процідзеянне, нежаданне прымаць такое дзіця ў асяроддзе здаровых равеснікаў. Толькі самым упартым удаецца пераадолець звыклыя стэрэатыпы.

З 4 верасня 2000 года ў нашым раёне працуе Цэнтр карэкцыйна-развіццёвага навучання і рэабілітацыі. На базе асобных школ дзейнічаюць чатыры пункты карэкцыйна-педагагічнай дапамогі. Адзін пункт працуе на базе дзіцячага сада. Сёння задачай аддзела адукацыі і цэнтра з'яўляецца інфармацыйна-асветніцкая работа ва ўстановах адукацыі, выступленні на бацькоўскіх сходах, у перыядычным друку па пытанню неабходнасці навучання і рэабілітацыі дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця.

Не менш важная задача – падрыхтоўка моладзі да сямейнага жыцця, фарміраванне ў юнакоў і дзяўчат каштоўнасных арыентацый, накіраваных на сямейнае жыццё, бацькоўства.

З 2001-2002 навучальнага года ў чатырох школах раёна выкладаецца спецкурс "Этыка і псіхалогія сямейнага жыцця". Але гэта адзінкавыя выпадкі, а неабходна зрабіць такі спецкурс абавязковым.

Мы спрабуем вырашыць гэтую праблему і праз гуртковую работу. У раённым Цэнтры творчасці і вольнага часу вучняў працуе дзіцяча-юнацкае аб'яднанне "Будучая гаспадыня", а ў мнагапрофільным маладзёжным цэнтры дзейнічае клуб "Маладая сям'я". У школах праводзяцца дыспуты, круглыя сталы, вечары пытанняў і адказаў на тэму сямейных адносін, гатоўнасці вучняў да сямейнага жыцця. Але часам самім педагогам не хапае псіхалагічных, метадычных ведаў па гэтаму пытанню.

Вырашыць праблему часткова зможа пасада вызваленага класнага кіраўніка, увядзенне ў вучэбны план педагагічных ВНУ адпаведных псіхолага-педагагічных спецкурсаў па праблемах сям'і і шлюбу.

З мэтай аказання дапамогі педагогам школ у рабоце з бацькамі творчай групай раёна распрацавана праграма міжведамаснага ўзаемадзеяння "Сям'я".

Узаемаразуменне, агульны давер, супрацоўніцтва сям'і і выхаваўчых устаноў – вось без чаго сёння нельга ўявіць правільнае і паспяховае развіццё асобы дзіцяці, яго сацыялізацыю.

У нашым цяперашнім жыцці не хапае чалавечнасці і дабрыні. Менавіта яны павінны стаць той пуцяводнай зоркай, якая зможа дапамагчы дарослым знайсці правільнае выйсце з лабірынту праблем і падараваць шчаслівую будучыню нашым дзецям.

**Мікалай ПАШКОЎСКІ,**
**загадчык Бялыніцкага раённага аддзела адукацыі.**

Фота Юрыя БОНДАРАВА.

Выхаванне літаратурай

# Прапаведнікі міласэрнасці

***Які настаўнік літаратуры патрэбны сёння? Адказ можа, на нашу думку, быць толькі адзін: сёння патрэбны настаўнік адвечны. Тая гуманістычна вядучая асоба, прафесіянальным заданнем якой было б выхаванне ў вучня маральнай адказнасці за ўсё, чым жыве чалавецтва.***

Здзіўляе факт, што і па сёння людзі параўноўваюць школьную дзейнасць настаўнікаў літаратуры з выкладаннем іншых прадметаў. Падобная пазіцыя вельмі недасканалая. Справа ў тым, што літаратура як вучэбная дысцыпліна прынцыпова адрозніваецца ад большасці прадметаў выкладання. На ўроку літаратуры сродкам кшталтавання асобы выступаюць не толькі паняцці (што традыцыйна для дакладных навук), але і таямнічая загадкавасць мастацкіх вобразаў. Прадметы эстэтычнага цыкла (спевы, выяўленчае мастацтва, сусветная мастацкая культура) таксама грунтуюцца на спасціжэнні вобразных феноменаў, але **толькі літаратура ставіць школьніка перад разгорнутай панарамай чалавечага лёсу**; вучань аказваецца перад неабходнасцю супастаўляць сваё ўласнае жыццё з псіхічным сусветам літаратурнага сюжэта. Такім чынам, выкладанне літаратуры па сваёй сутнасці роднасна мастацкай творчасці.

Апроч таго, школьнае вывучэнне літаратурнага матэрыялу ў чымсьці пераклікаецца з выхаваўчымі высілкамі святара (пра гэта ўсё гучней гаворыць педагагічная прэса).

* * *

Адукацыйны патэнцыял урока літаратуры бясспрэчны. Але гіпертрафіраванае ўзвелічэнне яго, якое часам назіраецца, адмоўна ўплывае на асобу педагога: аддаляе знаўцу славеснасці ад яго галоўнай апостальскай, пасланніцкай місіі ў школе. Менавіта гэтая місія і складае тую самую адвечнасць, якая аб'ектыўна выдзяляе настаўніка літаратуры са шляхетнага племені выкладчыкаў іншых школьных навук. Творы майстроў слова на некаторых уроках літаратуры выступаюць толькі як матэрыял для схаластычнай эрудзіраванасці і вельмі далёкія ад надзённых маральных праблем сённяшняга юнацтва. Між тым, усе літаратурныя творы, якія вывучаюцца ў школе – ад першага да апошняга класа, – уяўляюць сабою адзіны духоўна-збаўленчы тэкст. Яго прызначэнне – даваць асобна ўзятай чалавечай адзінцы моц для пераадольвання ўласнай маральнай ляноты і абуджаць у чытача дзейнасць сумлення. Толькі гэтыя ўнутраныя працэсы ў душы кожнага з нас былі і могуць быць гарантыяй парамажнага вырашэння чалавецтвам глабальнай, найадказнейшай задачы: духоўнага (і як вынік – фізічнага) выжывання цывілізацыі.

Калі апостальскую, пасланніцкую місію разумець як прысутнасць настаўніка літаратуры ў школе, паўстае пытанне: ці кожны з тых, хто мяркуе вучыцца на філалагічным факультэце, дастаткова ўяўляе, на якія цяжкасці і вырачэнні павінен будзе ён пайсці ў імя абранага ім служэння? Самі ж літаратурныя творы кажуць прэтэндэнту пра тое, што лёс прапаведнікаў міласэрнасці быў зазвычай драматычным, калі не трагічным. Пра гэтае ж гаворыць і біяграфія ці не кожнага з вялікіх творцаў прыгожага пісьменства. Будучы выкладчык літаратуры павінен добра разумець, што яго заклікі да маральнасці (не толькі ў класным кабінеце, але і за яго сценамі) далёка не заўсёды будуць прымацца прыхільна і бесперашкодна. Прыйдзецца "прымерваць" на плечы свайго жыцця (і асабістага, і прафесіянальнага) радкі В.Хлебнікава:

*Сегодня снова я пойду*
*Туда, на жизнь, на торг,*
*на рынок,*
*И войско песен поведу*
*С прибоем рынка*
*в поединок!*

Студэнту, які рашыўся на школьнае выкладанне літаратуры, трэба зразумець найцяжэйшае: "торг", "рынок" жывуць не толькі дзе-небудзь, у сацыяльным аддаленні, але і ў ім самім, студэнце. Не трэба кудысьці ісці: ваяваць прыйдзецца з самім сабой. І ў гэтым – сутнасць вырачэння і апостальскага служэння мастацкаму слову.

Майстры літаратуры не аднойчы звярталіся да настаўніка-прарока, папярэджвалі яго перад грамадскім неразуменнем. Адзін з паэтаў паказаў, да прыкладу, як ацэньвае нядбалы вучань свайго педагога-літаратара:

*Кудесник, ты лживый,*
*безумный старик!*
*Презреть бы твоё*
*предсказанье!*

З чаго ж так раз'юшыўся князь з "Песни о вещем Олеге" А.С.Пушкіна?

Ці не з таго, што ўвогуле не зразумеў прароцтва? Слова "конь" Алег успрыняў у яго прамым сэнсе. Не ўцяміў, што конь – сімвал жыццёвай пазіцыі, маральнай накіраванасці. Вяльможнаму ваяўніку было сказана: калі і далей ты будзеш жыць так, як жывеш, дык хутка дні твае скончацца. У.Высоцкі ў сваёй сучаснай версіі "Вешчага Алега" зразумеў перасцярогу "кудзесніка" менавіта як размову пра "лінію жыцця":

*А вещий Олег свою*
*линию гнул,*
*Да так, что никто*
*и не пикнул...*

Гаворачы пра тое, што дні Алега скончыла змяя, настаўнік абавязкова зазначыць, што змяя ў старажытных міфах – увасабленне мудрасці...

Такое "прачытанне" вядомага сюжэту – не прыём, не навацыя, а заяўка на прынцыпы ўспрыняцця літаратуры: выкладанне прыгожага пісьменства ў школе – не прафесія, а жыццё вешчае, укшталтаванае ў тую функцыянальную форму, якая трэба грамадству. Усё мастацтва слова прамаўляе пра "каня", гэта значыць пра дастойны сапраўднага чалавека спосаб жыцця. Урокі літаратуры – гэта бясконцае паўтарэнне сустрэч Алега са "вдохновенным кудесником". "Вучню"-Алегу да глыбінь сэрца трэба ведаць адказ на адно пытанне: "Что сбудется в жизни со мною?" Адказ на гэтае выпакутаванае цярпенне – у руках настаўніка-вешчуна. Ён – ведае, таму што ўсё яго асабістае жыццё (якое для настаўніка літаратуры сінанімічна педагагічнай дзейнасці) – гэта няспынная размова з самім сабою менавіта пра "каня", пра сваё настаўніцкае, жыццёвае апостальства.

Вось чаму, як нам здаецца, пры залічэнні на філфак трэба праводзіць субяседаванні маральнага характару, у якіх размова пайшла б пра асобу абітурыента, аб прычынах абрання ім шляху настаўніка менавіта літаратуры, пра тое, як пачатковец-вяшчун разумее свой прафесіянальны абавязак, ці ўпэўнены ён, што ў яго стане сіл на сапраўднае місіянерства сродкамі літаратуры.

Падобнага роду разважанні і задумы могуць быць успрыняты кімсьці з чытачоў як, мякка кажучы, наіўныя і немагчымыя для здзяйснення фантазіі.

Але чаму – фантазіі, калі грамадства спакон веку шукала менавіта такога настаўніка? Шырока вядома, што ў старажытнай Персіі ад маладога чалавека патрабавалі валодаць толькі трыма ўменнямі: сядзець на кані, страляць з лука і гаварыць праўду. Якім павінен быць настаўнік трэцяга ўмення? Туга па інтэлігентнасці, па шляхетнасці духу відавочная сёння як ніколі.

Грамадская патрэба ў настаўніку-вешчуну не згасае. Чакаючы Хрыста, ці не настаўніка спадзяюцца сустрэць вернікі?

Дык да якой праўды, да якой жыццёвай паставы павінен весці сваіх вучняў на ўроку літаратуры выкладчык? Дазволім сабе выказацца па гэтым агромністым і адказным пытанні. **Сэнс жыцця, на наш погляд, складаецца з "атамаў", "клетачак", "хвілін" дабрыні канкрэтнай асобы.** Гаварыць пра тое, што чалавека выратуюць якіясьці адпрацаваныя мадэлі дабрачыннасці – на наш погляд, безадказна і немаральна. Чалавек павінен сам штодзённа і бесперапынна выпрацоўваць гэтыя мадэлі – для сябе, толькі для сябе, не навязваючы іх нікому з тых, хто побач. Але вось калі хтосьці з іншых пойдзе за табою – тады паўстае тое, імя чаму – духоўнае жыццё грамадства.

Калі выказвацца зусім коратка, прамовім гэтак: сапраўдны настаўнік літаратуры – гэта свабодны чалавек. Свабодны ўнутрана, гэта значыць самастойны ў дачыненні да свайго ўласнага жыцця. Быць свабодным чалавекам і дзякуючы гэтаму выхоўваць свабодных людзей – вось, на на наш погляд, з чаго складаецца жыццёвае прызначэнне настаўніка літаратуры.

**Юрый ПАТАЛКОЎ,**
**дацэнт Брэсцкага дзяржаўнага універсітэта.**

Узаеміны

# Чаму я стаў лішнім?

***Стасункі бацькоў і дзяцей ва ўсе часы былі няпростымі. Асабліва складаным для ўзаемаразумення часцей за ўсё аказваўся і аказваецца так званы пераходны ўзрост, калі падлетак ужо не дзіця, але яшчэ і не дарослы чалавек. Менавіта ў гэты складаны перыяд нашы дзеці становяцца найбольш ранімымі, патрабуюць да сябе самых далікатных і паважлівых адносін. І менавіта ў гэты перыяд непаразуменне паміж бацькамі і дзецьмі нярэдка падштурхоўвае апошніх да самых адчайных учынкаў. Так здарылася і ў сям'і адных маіх знаёмых.***

Першай заўважыла, што з Мішам нешта не тое, настаўніца гісторыі. Хлопчык, які заўсёды з задавальненнем наведваў яе ўрокі і актыўна ў іх удзельнічаў, ужо некалькі дзён быў безуважны да таго, што адбывалася ў класе. Ірына Сцяпанаўна, спрабуючы неяк развярушыць вучня, прапанавала яму зрабіць даклад на вельмі цікавую тэму. Раней хлопчык з радасцю б за гэта ўзяўся. Цяпер жа ён не праявіў ніякага энтузіязму ці хоць бы проста зацікаўленасці. І пастаўленая двойка за нявывучаны ўрок таксама не падзейнічала. Міша паранейшаму прыходзіў на ўрокі, але сядзеў з абыякавым выглядам і ў думках знаходзіўся недзе далёка. Спробы настаўніцы шчыра пагаварыць з падлеткам таксама не прывялі да поспеху. Хлопчык упарта адмоўчваўся. Паступова Міша з цікаўнага "харашыста" ператварыўся ў стойкага троечніка, які трымаўся толькі на раней засвоеных ім ведах, эрудыцыі і добрым стаўленні да сябе настаўнікаў.

Паводзіны падлетка занепакоілі і адміністрацыю школы. Але неаднаразовыя спробы запрасіць на гутарку бацькоў не мелі поспеху. Тыя ігнаравалі педагогаў. Такая сітуацыя працягвалася каля месяца, пакуль аднойчы раніцай, перапалоханая і заплаканая, у школу не прыбегла маці Мішы. Яна нешта бязладна гаварыла і прасіла дапамагчы ёй. Супакоіўшы жанчыну, настаўнікі, нарэшце, здолелі зразумець, што ў пятніцу пасля школы хлопчык не вярнуўся дадому. Не было яго ўсе выхадныя, не паявіўся ён і ў школе. Маці абзваніла ўсіх сваякоў, сяброў сына, бальніцы і моргі, але ўсё дарэмна. Міша знік. Давялося заявіць у міліцыю.

Цэлы тыдзень працягваліся пошукі хлопчыка, калі аднойчы Ірыну Сцяпанаўну, якая на вакзале чакала аўтобус, паклікаў знаёмы голас. Гэта быў Міша. Насуперак спадзяванням, ён не быў знясіленым і недагледжаным. Перад ёй стаяў ужо не 15-гадовы падлетак, а юнак з позіркам чалавека, які шмат пабачыў у жыцці. На ім была новая джынсавая куртка, дарагія сонечныя акуляры, у руках - сумка з садавінай. Было відаць, што з грашыма ў яго праблем няма.

"Дзе падлетак жыў увесь гэты час? Адкуль у яго грошы і новыя рэчы? Куды ён накіроўваецца цяпер?" - усе гэтыя пытанні маланкай пранесліся ў галаве здзіўленай настаўніцы, але, баючыся спалохаць Мішу, яна толькі паказала сваю радасць ад сустрэчы з ім і моўчкі стала чакаць, каб ён загаварыў першым.

І хлопчык загаварыў. Здавалася, ён не размаўляў некалькі дзён - такая плынь слоў палілася з яго. І першымі былі: "Як бачыце, я магу пражыць і без іх". Далей разгарнуўся аповед пра тое, што ўвесь гэты час Міша жыў то на вакзале, спрытна хаваючыся ад міліцыі, то на могілках, дзе ён уладкаваўся капаць магілы. Стаяў пачатак сакавіка, і работа была не з лёгкіх, таму плацілі за яе добра. Так што грошай хапала не толькі на яду. У момант сустрэчы хлопец меўся ехаць у іншы горад да стрыечнай сястры, якая ляжала ў бальніцы. "Я хачу, каб яна не пачувала сябе адзінока, - сказаў падлетак усхваляваным голасам. - Я ведаю, што такое адзінота".

Ірына Сцяпанаўна яшчэ доўга слухала Мішу, спрабуючы высветліць, што прымусіла яго пайсці з дому. І толькі калі хлопчык атрымаў абяцанне не гаварыць бацькам, дзе ён, падлетак стаў шчырым. Аказалася, што ў, здавалася б, прыстойнай на выгляд сям'і на паверку ўсё было не так ужо і добра. Бацькі Мішы знаходзіліся на мяжы разводу. У звычайныя дні яны сварыліся, высвятляючы адносіны паміж сабой і не хвалюючыся, што іх чуе сын. А ў выхадныя бацька ішоў да другой жанчыны, а маці ўцякала ад сваіх праблем у вёску. Лічачы сына дастаткова дарослым, бацькі рупіліся толькі пра тое, каб ён быў сыты і адзеты, забываючы пра душэўны стан дзіцяці, на вачах якога распадаецца сям'я. Хлопчык, раней акружаны любоўю і клопатам бацькоў, раптам стаў ім непатрэбным. Пачуццё пакінутасці, адзіноты было невыносным. Трэба было неяк звярнуць на сябе ўвагу, нагадаць бацькам, што ён ёсць. Пайсці з дому падалося Мішу самым лепшым спосабам.

Падлетак меў рацыю ў адным. Гэта быў не лепшы, але вельмі дзейсны спосаб. Бацькі не толькі ўспомнілі пра сына, але і аб'ядналіся ў пошуках хлопчыка. Гэтыя падзеі прымірылі іх.

***Дадзеную сітуацыю мы папрасілі пракаменціраваць псіхолага Наталлю Ільінскую:***

— У 14-15 гадоў у падлеткаў надыходзіць вельмі складаны ўзрост - мяжа паміж дзяцінствам і сталым жыццём. У гэты час яны праходзяць працэс сацыялізацыі, гэта значыць непасрэднага ўключэння ў жыццё грамадства, прымеркі на сябе яго маралі, правілаў і норм паводзін. І калі ў гэты перыяд узнікаюць канфліктныя сітуацыі ў сям'і, то падлетак вельмі часта ўцякае з дому. І гэта, па-першае, форма пратэсту супраць сітуацыі, якая яго траўміруе. Па-другое, спосаб звярнуць на сябе ўвагу. Па-трэцяе, паказаць, што ён ужо не маленькі, усё разумее і хоча жыць самастойна.

Тое, што дачка або сын маюць намер уцячы з дому, уважлівыя бацькі могуць заўважыць загадзя. Як правіла, у гэты перыяд у доме паяўляюцца новыя сябры. Падлетак пачынае позна вяртацца дадому. Акрамя таго, у яго ўзнікае цікавасць да курэння, выпіўкі або музыкі, якія ён раней не любіў. Амаль заўсёды сын або дачка абавязкова раскажуць пра якога-небудзь хлопчыка або дзяўчынку, якія жывуць адны і шчаслівыя, гэта значыць "агучаць" сваю праблему. Але час уцёкаў, як правіла, не выбіраецца. Пакідаюць дом дзеці спантанна, часцей за ўсё без грошай і дакументаў. У 90 працэнтаў такіх выпадкаў прычына - канфлікты паміж бацькамі.

Каб падобнага не адбылося, бацькі ў экстрэмальных сямейных сітуацыях не павінны забываць пра дзіця і не дапускаць яго да вырашэння праблем у сям'і. У гэтым выпадку бацькам лепш за ўсё шчыра пагаварыць з сынам або дачкой, патлумачыць, што яны яго па-ранейшаму любяць і заўсёды будуць любіць, нават калі развядуцца, што ён ім патрэбны.

Размаўляць з падлеткам трэба як з дарослым, бо ён і на самай справе ўжо многае разумее. Калі ж дзіця ўсё ж пайшло з дому, дык пасля яго вяртання неабходна даведацца аб прычыне ўчынку, паспрабаваць пераканаць, што бацькі яго зразумеюць (бо разумелі ж дагэтуль). Растлумачце, чаму ў сям'і змяніліся адносіны, і запэўніце сына або дачку, што яго па-ранейшаму любяць. Хацелася б падкрэсліць, што ў падобных сітуацыях ні ў якім разе не трэба падключаць да выхавання міліцыю. Гэта толькі ўсё ўскладніць, бо міліцыя, як вядома, — карны орган. А пакаранне не прыводзіць да паразумення.

**Галіна ЗАГАДСКАЯ.**
Баранавічы.

Грамадскія аб'яднанні

# Пакарыць свет і не нашкодзіць нікому

***Цяга да прыгод, імкненне выпрабаваць сябе ў цяжкіх, нават экстрэмальных умовах, справіцца са сваімі страхамі, сказаць сабе "Я гэта магу!" - нармальная з'ява ў падлеткавым узросце. "Паеду на дачу, буду корпацца на градках" - такое жаданне для падлетка нонсенс і хутчэй можа выклікаць трывогу ў бацькоў і выхавальнікаў, калі яны неабыкавыя да дзіцяці. Спрадвечнае ж дзіцячае імкненне "Хачу пакарыць свет!" - гэта нармальна.***

Але сумная праўда заключаецца ў тым, што ў маладога чалавека, якому няма чаго рабіць, тыя ж самыя цудоўныя памкненні і "напалеонаўскія планы" абарочваюцца антыграмадскімі ўчынкамі. Прыгоды набываюць крымінальны характар: разбіць ліхтар, спалохаць прахожага на цёмнай вуліцы, увязацца ў бойку, залезці ў гандлёвы кіёск... Спецыялісты сцвярджаюць, што дзевяць з дзесяці цяжкіх злачынстваў непаўналетніх здзяйсняюцца тымі, хто не працуе і не вучыцца. Гэта значыць, падлетак, які ніякай справай не заняты, амаль заўсёды ўчыніць нешта супрацьзаконнае. У нашай краіне ўжо чацвёрты год зніжаецца падлеткавая злачыннасць, але расслабляцца, мабыць, не варта. Першыя два месяцы 2002 года далі ўжо рост злачынстваў, здзейсненых непаўналетнімі. Амаль 30 тысяч падлеткаў штогод затрымліваюцца міліцыяй за знаходжанне ў нецвярозым стане. Між тым, "прыгоды" ў аддзяленні міліцыі не толькі поўнасцю пазбаўлены рамантыкі, але і маюць вельмі непрыемныя наступствы для будучыні дзіцяці. Міжволі напрошваецца высновa, што не там шукаюць гэтыя хлопчыкі (і дзяўчынкі таксама) вострых адчуванняў. Але гэта не іх віна, што ніхто не даказаў ім, што ў турысцкім паходзе альбо на спартыўных спаборніцтвах іх схільнасць да рызыкі і азарту была б больш запатрабаванай.

Адным з першых працаваць з падлеткамі групы рызыкі ў гэтым кірунку стаў Цэнтр пазашкольнай работы "Пунсовыя ветразі" (Цэнтральны раён Магілёва), які разам з Лігай добраахвотнай працы моладзі і аддзелам адміністрацыі свайго раёна яшчэ ў 1996 годзе арганізаваў для такіх падлеткаў летнік "Надзея". Спачатку ён працаваў толькі падчас летніх канікул, а з 1999 года адчынены ў перыяд усіх школьных канікул. Усяго за гэтыя гады ў "Надзеі" пабывала каля 1000 чалавек — падлеткаў ад 9 да 15 гадоў, якія стаяць на ўліку ў інспекцыі па справах непаўналетніх альбо на ўнутрышкольным уліку. З імі працуюць студэнты Магілёўскага дзяржаўнага універсітэта імя А.Куляшова, педагогі цэнтра "Пунсовыя ветразі ", валанцёры з Бельгіі, Галандыі, Японіі, Францыі, Германіі, Італіі. Сацыяльна-псіхалагічная дапамога падлеткам, далучэнне да цікавай і карыснай дзейнасці – спартыўнай, турыстычнай, працоўнай, – у якой можна рэалізаваць сваю цягу да самасцвярджэння – усё гэта вельмі важна. Таксама як і нефармальныя (і вельмі цікавыя) стасункі з іншымі маладымі людзьмі, крыху старэйшымі (толькі крыху, таму падлеткі адчуваюць да іх такі давер), якія ўжо знайшлі свой шлях самарэалізацыі, іх прыклад – у тым, як можна перавесці сваю энергію ў пазітыўнае рэчышча і дабіцца нечага значнага... Падлеткі маюць цудоўную магчымасць пашырыць свае гарызонты ў стасунках з моладдзю іншых краін, далучыцца да традыцый, правілаў і законаў, якія ўжо склаліся ў летніку і якія паступова прымаюцца і становяцца для падлеткаў сваімі. А галоўнае – дзеці, якія пабывалі ў "Надзеі", пачынаюць разумець, што на свеце ёсць справы куды больш цікавыя, чым проста бадзяцца па вуліцы, не ведаючы, куды сябе падзець і чым заняцца.

**Святлана СУБОЦІНА.**

Бацькоўскі сход

# Супраць наркотыкаў

***Усё больш педагогаў хвалюе праблема алкагалізму, таксікаманіі і наркаманіі сярод падлеткаў. Змагацца з гэтым злом толькі на ўзроўні спецыялістаў далёка не дастаткова. Таму тэма здаровага ладу жыцця становіцца традыцыйнай для бацькоўскіх сходаў. Адзін з іх - для бацькоў дзяцей, якія стаяць на ўнутрышкольным уліку ў сувязі з падобнымі "захапленнямі" - прайшоў у сярэдняй школе №31 Віцебска і аказаўся далёка не ардынарным.***

Бацькоў сабралася нямнога (па трое-чацвёра ад кожнай школы Першамайскага раёна), але ўсе яны былі шчыра занепакоены праблемамі сваіх дзяцей. Прысутнічалі і сацыяльныя педагогі, якія апякаюць такіх вучняў. Вядучая, метадыст РАА Берута Семянкова сваю задачу бачыла ў абуджэнні бацькоўскай актыўнасці ў барацьбе за дзіця, якое выбрала небяспечны шлях наркамана.

Перад слухачамі выступіла намеснік галоўнага ўрача псіханеўралагічнага дыспансера Ала Кузняцова. Яна падрабязна і вобразна абмалёўвала жыццё залежнага ад наркотыкаў падлетка, працэс яго фізічнай і псіхічнай ломкі, апісала прыкметы пачатковай стадыі наркаманіі і заклікала праяўляць асаблівую пільнасць у дачыненні да дзяцей. Кузняцова звярнула ўвагу прысутных на тое, што пры дыспансеры дзейнічае ананімны экспрэс-тэстэр, які дазваляе ў лічаныя хвіліны вызначыць наяўнасць у арганізме таксічных рэчываў. Галоўнае – не баяцца ўрача, не ўтойваць сямейнай трагедыі, а шукаць шляхі яе вырашэння.

На сустрэчу прыйшоў і былы наркаман, які адзінаццаць гадоў "сядзеў на іголцы", каб падзяліцца ўласным вопытам выйсця з жыццёвага тупіка з дапамогай рэабілітацыйнага цэнтра. Яго гісторыя выклікала вялікую цікавасць.

Са сваёй прапановай да прысутных звярнуўся і служыцель праваслаўнай царквы айцец Сергій. Ён лічыць, што ў гэтай справе неацэнная можа быць роля царквы. Добра зарэкамендаваў сябе летнік адпачынку ў вёсцы Вораны, адкрыты ў мінулым годзе Віцебскай епархіяй. Чаму б не паспрабаваць адарваць дзяцей ад зла там, сярод равеснікаў? У дапамозе не адмовіць і ніводзін святар.

– Дзе шукаць выйсце з гэтага пякельнага кола – вырашаць бацькам самастойна. Але выйсце ёсць, трэба толькі захацець яго знайсці. Засцерагчы дзяцей любымі сродкамі – наша агульная мэта, – сказала напрыканцы вядучая.

Заклапочаныя бацькі дружна пацягнуліся за нумарамі тэлефонаў да спецыялістаў, якія выступалі на сходзе. Значыць, размова дасягнула сваёй мэты, "лёд крануўся".

**Святлана ЛАВЕЙКІНА.**

